№ 92 (4037)

24 лістапада 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля



БІРЖА

## Новы рэкорд долара

*Учора на таргах Беларускай валютна-фондавай біржы курс долара сёмы раз запар пабіў гістарычны максімум.*

Кошт амерыканскай валюты вырас на 49 рублёў – да 17.976 рублёў. Курс еўра знізіўся на 80 рублёў і склаў 19.094 рублі.

Курс расійскага рубля знізіўся на 1,69 рубля да 274,67 рубля.

ФАКТ

## Беларусь павялічыла закупку нафты

За дзевяць месяцаў на закупку нафты, якая цалкам пастаўляецца з Расіі, патрачана 4470 мільёнаў долараў. Гэта амаль на трэць меней, чым летась: раней сярэдні кошт тоны нафты складаў 378,9 долара, цяпер – 261,6 долара. Імпарт сырой нафты павялічаны на 2,7% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года.

Пры гэтым наша краіна істотна нарасціла імпарт нафтапрадуктаў – у 4,4 раза болей, чым летась. 98% закупленых нафтапрадуктаў выраблены ў Расіі.

ПОП-КУЛЬТУРА

## «Залатыя» білеты на «Золотой граммофон»

*Учора на "Мінск-Арэне" адбыўся канцэрт і ўручэнне музычнай прэміі "Золотой граммофон". Некаторыя квіткі прадаваліся амаль за 200 долараў.*

Удзел у імпрэзе бралі Стас Міхайлаў, Піліп Кіркораў, Мікалай Баскаў і іншыя. Усяго выконвалі хіты 20 удзельнікаў.

Зрэшты, відовішча было нятанным. Білеты каштавалі ад 650 тысяч да 3 млн 400 тысяч рублёў.

Дарэчы, за некалькі гадзін да канцэрта можна было свабодна набыць квіткі і за мільён, і за 3 мільёны рублёў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

БЕЛАРУСЬ–РАСІЯ

## Хто выйграе скрыню каньяку?

Стаўшы ў пяты раз прэзідэнтам Беларусі, Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што свой першы візіт у гэтым статусе плануе здзейсніць у Расію. Хто б сумняваўся!..

І тым не менш на гэты раз у намечаных перамовах Аляксандра Лукашэнкі з Уладзімірам Пуціным ёсць інтрыга.

Нагадаем, што яшчэ ў верасні гэтага года прэзідэнт Расіі падпісаў распараджэнне наступнага зместу: "*Прыняць прапанову ўрада Расійскай Федэрацыі аб падпісанні Пагаднення паміж Расійскай Федэрацыяй і Рэспублікай Беларусь аб расійскай авіяцыйнай базе на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Даручыць Міністэрству абароны РФ з удзелам МЗС РФ правесці перамовы з беларускім бокам і падпісаць ад імя Расійскай Федэрацыі згаданае пагадненне*".

Называліся нават "крайнія тэрміны" для падпісання дакумента – кастрычнік 2015 года. Акрамя таго, тэкст праекта пагаднення быў выкладзены на расійскіх афіцыйных сайтах.

Але на пачатку кастрычніка Аляксандр Лукашэнка раптам заявіў: "*Размовы пра тое, каб размясціць на тэрыторыі Беларусі расійскую авіяцыйную базу, ніколі не вялося. Я нічога пра гэта не ведаю. Чалавек, які павінен прымаць такое рашэнне, – я, і я нічога пра гэта не ведаю*".

Прэзідэнт Расіі – сур'ёзны чалавек і адступаць не любіць, але і Аляксандр Лукашэнка – не гнуткая вярба. Дык хто ж каго?

Беларускі палітолаг Павел Усаў ужо заявіў: ставіць скрыню каньяку, што расійская авіяцыйная база з'явіцца ў Беларусі ў наступным годзе. Так і сказаў: **"Гатовы паставіць скрыню каньяку. Гэта рашэнне, якое ўжо прынята ў Міністэрстве абароны Расіі. У 2013 годзе была падпісана дамоўленасць паміж міністэрствамі абароны і генеральнымі штабамі Беларусі і Расіі, што база з'явіцца ў 2016 годзе"**.

Той жа думкі прытрымліваецца экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта Андрэй Саннікаў, хоць ён скрыню каньяку нікому не абяцае. У інтэрв'ю "Голасу Амерыкі" ён заявіў: "**Думаю, рашэнне па авіябазе ўжо прынята Крамлём. Лукашэнка робіць выгляд, што супраціўляецца гэтаму, але Захаду трэба слухаць не рыторыку, якая гучыць ад Лукашэнкі, а ацэньваць рэальныя дзеянні, якія адбываюцца ў ваеннай сферы паміж Мінскам і Масквой**".

Прама супрацьлеглая ацэнка прагучала з вуснаў расійскага палітолага, у свой час высланага з Беларусі, Андрэя Суздальцава. Ён, наадварот, упэўнены: "*Няма ілюзій, што Лукашэнка адмовіць Пуціну ў размяшчэнні ваеннай базы*".

Дык хто ж выйграе скрыню каньяку?

**Ігар МАРОЗАЎ.**

УЧОРА

## Парашэнка прапанаваў пачаць блакаду Крыма

Прэзідэнт Украіны прапанаваў спыніць тавараварот з Крымам, забараніўшы транспарціроўку грузаў праз мяжу ў абодвух напрамках. У лісце прэм'ер-міністру Украіны Арсенію Яцэнюку ён прапанаваў стварыць працоўную групу для вывучэння гэтага пытання і падрыхтоўкі праекта адпаведнага рашэння. Да прыняцця канчатковага рашэння Парашэнка прапануе спыніць грузавое аўтамабільнае і чыгуначнае злучэнне з Крымам, паведаміла ўчора яго прэс-служба.

АКЦЫІ

## Мітынг у Слуцку дазволены

Слуцкі райвыканкам даў дазвол на правядзенне 28 лістапада ў Слуцку ўрачыстай дэманстрацыі і мітынгу з нагоды 95-й гадавіны Слуцкага збройнага чыну. Заяўку на правядзенне акцыі падавала Партыя БНФ.

Збор 28 лістапада ў 14.30 ля будынка Слуцкага краязнаўчага музея. Адтуль калона рушыць па ходніках да гарадскога парку культуры і адпачынку, дзе мае адбыцца ўрачысты мітынг ушанавання памяці ўдзельнікаў Слуцкага паўстання 1920 года.

SOS!

## Няма грошай…

Мінскі завод аўтаматычных ліній, Маладзечанскі станкабудаўнічы завод, Барысаўскі завод "Аўтагідраўзмацняльнік" і многія іншыя буйныя прадпрыемствы апынуліся ў спісе даўжнікоў, размешчаным на сайце Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва. Гэта сведчыць пра тое, што сітуацыя на прадпрыемствах зусім дрэнная.

Нагадаем: Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва – гэта той самы фонд, з якога выплачваюцца пенсіі, бальнічныя, розныя сацыяльныя дапамогі. Адлічэнні ў фонд для прадпрыемстваў з'яўляюцца прыярытэтнымі. Калі прадпрыемствы аказаліся ў даўжніках, то гэта азначае, што грошай у іх няма. Зусім няма…

МЫСЛИ ВСЛУХ

Сергей НЕРОВНЫЙ



*«Нам надо учиться не бояться постоять за себя – сейчас этого у нас нет. В этом наша главная проблема – слишком мало людей... с чувством собственного достоинства. Нужно растить человека с достоинством – только так можем изменить страну».*

Светлана АЛЕКСИЕВИЧ

## Чудная охота вечного оленя

Никогда не видел на улицах Кричева праздника, подобного тому, который спонтанно случился 12 октября – на следующий день после объявления результатов голосования по стране. Кричевляне вышли с баянами и гармонями, с гитарами и трещотками, с разноцветными шариками и изделиями из папье-маше. Было огромное число плакатов и транспарантов с изображением вечного отца нации. Люди обнимались и целовались. Причем бабушки в затрапезных одеяниях и в резиновых сапогах органично смотрелись среди холеных представителей номенклатуры. Бээрэсэмовцы запускали в небо воздушные шары и шутихи, самоходка и пушка стреляли ввысь разноцветными салютами. Светились счастьем лица ветерана Скачковой, ее моложавого окружения, членов исполкома, депутатов всех уровней, руководителей предприятий, учреждений, членов избирательных комиссий, милиционеров и чекистов, работников прокуратуры, журналистов, учителей и врачей, спортсменов и работников культуры, тунеядцев и безработных. Взрослые вывели на улицы своих детей и внуков. И никто не задерживал празднующих победу своего лидера за несанкционированные митинги и пикеты, никто не звал на работу и не грозил увольнением. Было ощущение всеобщего счастья, было ликование. Результат президентских выборов в районе был таков, что его из скромности даже не решилась опубликовать районная газета. Рискуя быть побитыми, попрятались на чердаках и в погребах те, кто не пришел на выборы или же проголосовал «не за того». Но их можно было пересчитать на пальцах одной руки.

Даже марсиане прилетели со своей далекой планеты поздравить кричевлян с таким праздником. На своей тарелке привезли подарки: Скачковой (председателю Совета ветеранов, лидеру местных коммунистов) и Ивкиной (редактору провластной районки) ящик марсианской текилы и ящик нептунского портвейна, юпитерианские сигары; милиционерам – эбонитовые дубинки и сверхпрочные наручники, а также неуничтожаемый журнал посещений; чекистам – новую подслушивающую аппаратуру; членам избирательных комиссий – детекторы лжи; Максимовой (до последних дней занимающей должность начальника отдела по идеологической работе райисполкома) – гроздь разноцветных и разнокалиберных марсианских бананов (рассмотреть детально не удалось). Сысоеву (главе районной вертикали) инопланетяне вручили чек на большую сумму марсианских шекелей в качестве инвестиционного пакета. Киселеву (гендиректору Белорусской цементной компании), Карчевскому (директору ОАО «Кричевцементношифер»), Беленцову (начальнику штаба гражданской обороны этого же объединения) и Кустрей (зам. директора по идеологической работе ОАО «Кричевцементношифер») привезли самое современное северокорейское оборудование для запуска старого завода. Были и еще подарки.

Ладно, признаюсь, про марсиан я загнул. В порыве журналистской эйфории пошутил и о ликовании людей на улицах Кричева 12 октября. Ничего подобного не было, наоборот, все ходили мрачные, с опущенными глазами. Но остальное, о чем я вам расскажу, уважаемые читатели, – чистая правда.

Что касается субъективных впечатлений о прошедшей политической кампании, то они следующие. Пришлось мне дежурить в качестве наблюдателя на участке №5 в «Крэчуте». Конечно, общался и с другими наблюдателями, и с избирателями. Картина вырисовалась следующая. Людей гнали на досрочное голосование, как табунщик гонит лошадей. Я знаю фамилии и предприятия, где так делали. Знаю заказчика в районе и контролера. Буду беречь свидетелей – они понадобятся.

Все избирательные комиссии были подконтрольны исполкому – в «счетчики» случайных людей не берут. Малейшее подозрение в излишней болтливости и нелояльности – отдыхай! Правда, в спешке туда попадают не только приверженцы власти. Так что кое-какой информацией я обладаю.

Предам огласке два разговора с нашими наблюдателями. Тот же В.Сысоев на упреки наблюдателя от демобщественности Н.Ивановой в принуждении к голосованию, развале района, невозможности найти достойную работу ответил ей: «Надежда Ивановна, мы с вами в разных лодках. Если бы вы были в нашей лодке, мы бы работу вам нашли!»

З.Скачкова после того, как Н.Иванова разоблачила «карусельщицу» Л.Булавкину на участке №4 (СШ №3), жестко сказала ей: «Ваше время еще не пришло. Вы – в меньшинстве!»

Председатель комиссии №5 В.Медведев на мою просьбу назвать число избирателей, пожелавших проголосовать на дому, и сообщить, сколько бюллетеней он выдал для этой цели, побледнел, убежал в закрытую комнату, а через 5 минут сообщил: «Мы по закону не обязаны давать вам такую информацию». Также он не разрешил сделать пару снимков для газеты, сославшись на запрет Ермошиной. Результатов по каждой урне на этом участке не давали, чем нарушили закон.

Есть одна действительная радость тех дней – наша соотечественница Светлана Алексиевич получила Нобелевскую премию. И сказала, что у нас мало людей с чувством собственного достоинства. Я же добавлю от себя: у нас, видимо, много людей с чувством, простите за грубоватый афоризм, использованного презерватива, которые сегодня готовы прийти на панель, отдаться любому надсмотрщику, а завтра ходить с опущенными глазами.

*г.Кричев*

ГАСТРОЛЬ

## В Большом – итальянский маэстро

*Сегодня в Минске впервые дирижирует Стефано Романи*

Известный европейский маэстро Стефано Романи приехал в Минск, чтобы стать за пульт оркестра в Большом театре оперы и балета. Он известная персона в музыкальном мире Европы, занимает пост художественного руководителя театра «Социале» в Ровиго.

Маэстро Романи сотрудничает с крупнейшими коллективами Италии, в том числе с театром «Ла Скала» в Милане, театром «Ла Фениче» и театром «Малибран» в Венеции, филармоническим оркестром имени Тосканини в Парме и другими коллективами. Теперь в его творческой биографии будет значиться и работа с белорусским оркестром Национального театра оперы и балета.

В Большом театре под музыкальным руководством мастро Романи сегодня будет исполнена опера «Набукко» Дж.Верди. Ведущие партии исполнят известные солисты – заслуженный артист Станислав Трифонов и лауреат международного конкурса Екатерина Головлева.

**Виктория ДРОЗД.**

УВАГА!

## За летнія шыны – 90 тысяч штрафу

З 1 снежня ДАІ пачне штрафаваць кіроўцаў аўтамабіляў з летнімі шынамі. Парушальнікам прыйдзецца заплаціць 0,5 базавай велічыні (або 90.000 рублёў). Акрамя таго, яны не змогуць прайсці тэхагляд.

ПАЛІТКУХНЯ

## Чарговая спроба аб'яднацца?

Падчас візіту ў Брусель прадстаўнікі шэрагу апазіцыйных структур – Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Партыі БНФ, аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» і руху «За Свабоду» – падпісалі дэкларацыю аб стварэнні правацэнтрысцкай кааліцыі.

Мяркуецца, што кааліцыя ствараецца для ўдзелу ў парламенцкіх выбарах 2016 года і вылучэння адзінага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах-2020, паведамляе БелаПАН.

Самі патэнцыяльныя сябры меркаванай кааліцыі пакуль не пацвярджаюць факт падпісання дамовы, а кажуць толькі пра абмеркаванне планаў супольнай дзейнасці.

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ



Светлана КАЛИНКИНА

## Раненая Европа

*Журналистка «Народной Воли» оказалась в центре антитеррористической операции*



Власти Бельгии в ночь на минувшую субботу повысили уровень террористической угрозы в столице страны Брюсселе до наивысшего – четвертого. Жителей города предупредили о большой вероятности нападений, подобных тем, что произошли в Париже. На улицах появились усиленные военные и полицейские патрули, вооруженные люди в камуфляже встали у входов в отели, жителей попросили не посещать места массового скопления людей, остановилось метро, впервые со времен Второй мировой закрыты все синагоги, не стала работать центральная станция железнодорожного вокзала, закрылись музеи и некоторые магазины, были отменены концерты, спортивные матчи, другие подобные мероприятия. Понедельник, где это возможно, объявили нерабочим днем…

Уровень террористической угрозы по всей Бельгии за пределами Брюсселя остается третьим, «серьезным».

Эти новости пришли уже вдогонку. Я была в Брюсселе накануне, когда в городе вовсю шла антитеррористическая операция, когда именно здесь искали ключевого подозреваемого в деле о парижских терактах Салаха Абдесалама, но угрозу новых нападений еще оценивали как просто "серьезную".

– Ну, как там? – волновались близкие и знакомые.

– Нормально, – отвечала. – Автоматчиков в метро увидела, только вернувшись в Минск.

### … И никакого «пардону»

Символ Брюсселя – знаменитый Писающий мальчик – пока стоит на прежнем месте и все так же удивляет туристов. Те, кто в столице Бельгии в первый раз, ожидают увидеть большую скульптуру, статую, изваяние – нечто соответствующее понятию "символ". А он, хулиган, все такой же маленький, не намного больше своих шоколадных копий, прижался в уголочке и делает свое дело. Заставляя людей и удивляться, и смеяться, и фотографироваться. Американцы, русские, китайцы, пакистанцы – вокруг него толкутся представители всех наций, полный интернационал. Сейчас, естественно, под особо пристальным надзором полиции.

На Гранд-Плас Брюсселя уже нет ковра из цветов, зато ставят новогоднюю елку. И сколько бы раз тут ни бывал – дух захватывает. Чудесное место, сказочное! Кружево из камня. Тонкая, величественная, устремленная ввысь архитектура. Невозможная красота! Даже не хочется верить, что, живя здесь, в таверне "Золотой баркас", Виктор Гюго мог писать свои мрачные романы. Пил что ли слишком много крепкого бельгийского пива?.. И вот тут же, рядом, когда-то находилась пивная, в которой впервые прозвучал «Манифест коммунистической партии» Маркса и Энгельса (сегодня на этом историческом месте – ресторан "Дом лебедя"). Невольно задумаешься: ну почему не жилось спокойно ни Марксу, ни Энгельсу, скольким миллионам людей жизнь своими идеями покалечили?! А сегодня в другой части планеты нашлись новые "мыслители", готовые калечить и убивать. И людей, и эту красоту, и пресловутые "европейские ценности", на которые в свое время Маркс с Энгельсом только замахнулись.

В один из вечеров мы гуляли по Брюсселю с коллегами из Азербайджана, и мне казалось, что европейцы – это они. Английский в столице Евросоюза, конечно, знают. Но – в евроструктурах, отелях, ресторанах, в такси. А вот обычные люди говорят либо по-французски, либо по-фламандски. Увы, тут мой словарный запас ограничивается словами: "пардон", "мерси", "бонжур" и еще парочкой. А вот девочки-азербайджанки щебетали с местными жителями, что райские птички. Оказалось, они тоже ни по-французски, ни по-фламандски не говорят. Они говорили… по-азербайджански. С местными турками, сирийцами, иранцами… Как выяснилось, тюркские языки очень похожи. В итоге я, европейка, находясь в столице Европы, ничего не понимала, а они оказались почти своими. Разве не обидно?!

Мигрантов в Бельгии очень много, Брюссель вообще называют городом иностранцев. На протяжении многих лет эта страна отличалась одной из самых простых процедур натурализации в Европе. С 2000-го по 2013 год иностранец мог получить бельгийское гражданство после трех лет проживания (двух лет, если речь шла о беженцах). К тому же для получения гражданства не требовалось знания государственного языка. И, конечно, сюда со всего мира хлынули жаждущие лучшей жизни. Причем, согласно статистике, половина прибывших из-за пределов ЕС не имела даже среднего образования. Сегодня мусульманские общины жалуются на то, что у них низкие заработки, что нет хорошей работы. Но кем они хотели работать, едва умея читать и писать? Министрами?..

*(Продолжение на 3-й стр.)*

НАДВОР'Е

## У канцы тыдня пацяплее

Паводле інфармацыі сіноптыкаў, цягам амаль усяго тыдня надвор'е ў Беларусі будуць вызначаць халаднаватыя і няўстойлівыя паветраныя масы. Будзе ісці мокры снег, тэмпература ў начныя гадзіны будзе адмоўнай, днём – блізкай да нуля. У выхадныя дні характар надвор'я зменіцца, у Беларусь зноў накіруецца больш цёплае паветра атлантычнага паходжання. Ападкі пяройдуць на змешаную фазу: мокры снег і дождж, тэмпература павысіцца.

ЛІСТ РЭДАКЦЫІ

## «Народная Воля» не ведае граніц.

### У якім бы далёкім ці блізкім замежжы ні знаходзіліся нашы суайчыннікі, яны могуць чытаць свежыя нумары газеты ўжо напярэдадні іх выхаду з друку

Ёсць звесткі, што за мяжой краіны пражываюць некалькі мільёнаў беларусаў. Безумоўна, у многіх з іх баліць душа за Бацькаўшчыну. Каб хоць нейкім чынам сцішыць гэты боль, мы ў чарговы раз прапануем ім наладзіць цесную духоўную сувязь з Радзімай. Магчыма гэта з дапамогай сваякоў, сяброў, былых саслужыўцаў і, вядома ж, "Народнай Волі".

Вы, шаноўныя землякі, якія па волі лёсу апынуліся за мяжой, можаце чытаць свежыя нумары "Народнай Волі" ўжо ў той вечар, калі яны тыражуюцца ў мінскай друкарні. Для гэтага толькі неабходна, каб нехта з тых, хто жыве ў Беларусі і з кім Вы падтрымліваеце сувязь, падпісаўся на PDF-версію газеты "Народная Воля", якая будзе прыходзіць на ваш электронны адрас. Мяркуем, што Вы не згубілі сувязь з Радзімай і такія людзі ў Вас ёсць.

Падпіску для Вас можна аформіць непасрэдна ў рэдакцыі.

Кошт месячнай падпіскі на PDF-версію такі ж, як і на друкаванае выданне газеты.

Нагадваем, што бягучыя нумары "Народнай Волі" выстаўляюцца і ў далейшым будуць выстаўляцца на сайт толькі праз 10–12 дзён. Значыць, суайчыннікі, якія пражываюць за мяжой, будуць вельмі ўдзячны вам, сваякам, сябрам, былым саслужыўцам, калі вы, шаноўныя, аформіце ім падпіску на "Народную Волю" ў фармаце PDF і яны змогуць знаёміцца з матэрыяламі свежых нумароў напярэдадні іх выхаду ў свет.

Тэлефон для даведак:
**810375-328-66-09.**

**Рэдакцыя газеты "Народная Воля".**

НЕСТАНДАРТ

## Николай БЕЗЪЯЗЫЧНЫЙ:

# «В инвалидном кресле самое сложное – понять, что жизнь продолжается»

*На прошедшем этапе Кубка мира по паралимпийскому фехтованию полочанин Николай БЕЗЪЯЗЫЧНЫЙ завоевал золотую медаль. Победа во Франции стала красивым финалом в 10-летней спортивной карьере белорусского паралимпийца. Мы поговорили с Николаем не только о фехтовании. Спортсмен из Полоцка рассказал «Народной Воле», почему полтора года после травмы боялся появляться на улице, в каких условиях сегодня живут люди с ограниченными возможностями и как ему удалось завоевать сердце самой красивой девушки на курсе.*



### Лондонское фиаско

– Об уходе из спорта я начал задумываться после Паралимпиады-2012 в Лондоне, – *говорит Николай*. – Со временем накопилась усталость. Также возникли проблемы со здоровьем. Боль в локте беспокоила постоянно. Нужно было определяться…

**– И что чувствует спортсмен, завершивший карьеру?**

– Удовлетворение после сделанной очень тяжелой работы. Есть понимание, что усилия за все годы фехтования были не напрасны.

**– Читал, что соревнования в Англии дались вам тяжело…**

– В Лондон я поехал капитаном нашей сборной. До Англии показывал хорошие результаты: стал вторым в Пекине, три года подряд выигрывал Кубок мира (по результатам всех этапов).

Перед поездкой на меня возлагали большие надежды. Но я стал четвертым. Желание победить затмевало мысли о самом фехтовании. Позже даже паузу взял в тренировках. Очень тяжело переживал свой результат: четвертое место – обидно.

**– С каким настроением поехали на Кубок мира во Францию?**

– Я принял решение уйти из спорта, поэтому психологически был разгружен. Выбросил из головы посторонние мысли. В Париже удалось показать все, что умею.

**– До травмы вы занимались фехтованием?**

– Я пришел в фехтование, еще будучи школьником, тренировался семь лет. Потом был распад Советского Союза, все разваливалось, и людям было не до спорта. Многие спортсмены эмигрировали.

Но в 1995 году мой первый тренер Семен Ефимович Сущин начал возрождать занятия фехтованием в Полоцке. Арендовал зал, начал собирать спортсменов, вывозил нас на старты. Потом случилась автомобильная авария, изменившая мою жизнь.

**– В такой ситуации не до спорта…**

– Пришлось нелегко, но мысли о спорте не покидали. Позже узнал, что можно заниматься и на коляске.

**– Все материальные затраты лежали на плечах спортсменов?**

– На заре белорусского паралимпийского фехтования я по наивности обратился в Полоцкий отдел спорта и туризма. Нужна была помощь с организацией поездок и экипировкой. Мне ответили, что нет возможности эпизодически финансировать виды спорта. Поддержка была совсем слабой. В 2007 году я взял бронзу на чемпионате Европы, и ситуация изменилась. Министерство спорта увеличило финансирование паралимпийского фехтования.

Нужно сказать, что сейчас молодым спортсменам в этом плане легче – их могут поддержать авансом. И это правильная позиция.

**– А сколько стоит укомплектовать фехтовальщика-паралимпийца?**

– Около 1000 евро. Недешево.

### Жалость вместо работы

**– Николай, чем собираетесь заниматься?**

– Из суеверия не стану озвучивать все планы. Надеюсь, что мой опыт пригодится в организации международных турниров и в целом в деятельности по развитию паралимпийского спорта. Тренерской работой заниматься пока не планирую.

**– Знаю, что у вас два высших образования…**

– Я вначале получил образование конструктора-технолога, а потом, уже находясь в коляске, юриста. Оба диплома – Полоцкого государственного университета.

Также я возглавляю Полоцкую объединенную организацию общественного объединения «Республиканская ассоциация инвалидов-колясочников». Полученные в университете знания юриста использую на практике. Одним словом, работы хватает. Трудности есть, но сказать, что ситуация катастрофическая, нельзя.

**– Проблемы парковок и безбарьерной среды, наверное, самые актуальные?**

– Есть такая шутка среди колясочников: все проблемы из-за ходячих людей. Обозначение на асфальте, что здесь место парковки для инвалида, трудно не заметить. Но находятся водители, которые игнорируют даже это. Возможно, ужесточение штрафов изменило бы положение.

Средства на безбарьерную среду выделяются, но бюджет ограничен. В целом общественные места Полоцка и Новополоцка доступны для колясочников. А вот с пандусами в жилых домах есть проблемы. Благо в новых проектах сдающихся домов уже все предусмотрено.

**– Знаю, что получить водительское удостоверение для колясочника очень трудно.**

– У меня были права еще до травмы. Но такая проблема есть! Людям, например, из Полоцка нужно ехать в другой город на обучение. Не все могут себе это позволить. Медицинская комиссия также отдельная тема.

**– В какой сфере, кроме спорта, может реализоваться человек на коляске?**

– Ситуация непростая. Инвалида-колясочника, например, в Германии еще нужно заставить заниматься спортом. Он себя неплохо чувствует, имея постоянную работу. Трудоустроиться инвалиду у нас сложно. Хорошо, что работает служба «124», которая предлагает вакансии людям с ограниченными возможностями.

Определенные шаги, конечно, делаются. Знаю, что Центр территориального обслуживания населения в Новополоцке проводит эксперименты по трудоустройству инвалидов-колясочников. Моя знакомая работает уже почти год. Правда, на трудоустройство ушло немало времени, сил и нервов. Были сложности с медкомиссией и разные бюрократические заморочки.

**– Какая пенсия сейчас у инвалида-колясочника?**

– Все зависит от стажа и заработка до травмы. В среднем около двух миллионов. Трудоустройство или медицинское страхование западного образца помогли бы инвалиду стать материально свободнее. Большинство людей с ограниченными возможностями хотят и могут быть полезными обществу. А сегодня, кроме жалости, инвалиду предложить нечего. Из-за этого люди часто закрываются в четырех стенах и ведут замкнутый образ жизни.

**– А вы как справились с бедой?**

– Все, кто получает инвалидность, испытывают стресс. И показать свою ограниченность в возможностях окружающим сложно. В 1996 году я попал в аварию и получил травму. Полтора года жил затворником и боялся выходить из квартиры.

Потом я поехал в Крым на оздоровление. В город Саки приезжает много колясочников из разных стран. Поэтому там я не чувствовал себя белой вороной. Понемногу начал раскрепощаться. Самое сложное, попав в инвалидное кресло, поверить, что жизнь продолжается.

**– Жены часто бросают мужчин, которые оказались в инвалидной коляске?**

– *(Задумался.)* Вспоминаю сейчас ребят из организации… Отдельные случаи, конечно, бывают. Но это не массовое явление.

### За консультацией к однокурснице

**– Николай, а как вы с супругой познакомились?**

– Это уже после травмы произошло. Мы вместе учились в университете. Для получения второго высшего образования я поступил в частный вуз (кстати, там мне пошли навстречу и разрешили учиться бесплатно). Но он закрылся, и многие студенты перевелись в Полоцкий университет. В нем продолжить обучение позволили только на платной основе. На тот момент денег не было, и я взял академический отпуск.

**– Общение с будущей супругой прервалось?**

– Некоторое время мы не виделись. Когда я восстановился в университете, то экзамены сдавал экстерном. И за консультациями по предметам обратился к Вере.

**– Но учеба служила только предлогом…**

– Признаюсь, да *(смеется)*. Не к однокурсникам обратился за помощью, а именно к Вере. Со временем наше общение переросло в серьезные отношения.

**– Николай, закончив со спортом, вы не перестали следить за выступлениями наших ребят. Какие прогнозы на Паралимпиаду-2016?**

– Ожидания оптимистичные. Время на подготовку есть. Думаю, что Андрей Праневич покажет достойный результат и войдет в тройку призеров.

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**



МАЗАІКА

## Ці адпомсціць БАТЭ нямецкаму «Баеру»?

*Сёння ў чарговым матчы групавога этапу Лігі чэмпіёнаў па футболе барысаўскі БАТЭ на дамашняй арэне згуляе з нямецкім “Баерам”.*

Нагадаем, 16 верасня ў Германіі “Баер” перамог БАТЭ з буйным лікам 4:1, таму зараз у барысаўчан маецца цудоўная магчымасць даказаць гледачам і сабе, што вынік матча двухмесячнай даўніны – усяго толькі крыўдная выпадковасць. Падтрымка з боку балельшчыкаў гарантуецца, а ўсё астатняе будзе залежаць толькі ад каманды.

Нагадаем, што паражэнне ў гэтым матчы, па сутнасці, ставіць крыж на далейшых перспектывах барысаўчан працягнуць еўракубкавую барацьбу.

## Дар’я Домрачава прадае лыжы

*Трохразовая алімпійская чэмпіёнка па біятлоне Дар’я Домрачава вырашыла прадаць свае лыжы, а вырučаныя грошы перадаць на будаўніцтва дзіцячага хоспіса ў Мінску.*

*“Я вельмі спадзяюся, што зіма ў хуткім часе прыйдзе ў Мінск, а ў вас з’явіцца магчымасць пакатаца на тых лыжах, якія доўгі час служылі мне верай і праўдай,* – кажа Даша ў сваім відэазвароце, які яна размясціла ў інтэрнэце. – *Усім прывітанне, і давайце разам зробім добрую справу. Няхай мае лыжы прынясуць задавальненне не толькі іх будучаму ўладальніку, але і дзецям, якім патрэбна наша дапамога”.*

Як вядома, славутая спартсменка вырашыла прапусціць цяперашні сезон пасля перанесенага захворвання.

Тым часам 1-ы этап Кубка свету па біятлоне стартуе ўжо 28 лістапада.

ЭКСКЛЮЗІЎ

## Святлана ЦІМАШЭНКА:

# «Мясцовыя ў Марока называлі мяне Наташай»

*Беларуска Святлана Цімашэнка, якая стала чэмпіёнкай свету па самба, распавяла “Народнай Волі” пра сваю самую галоўную перамогу ў спорце.*



На другі дзень чэмпіянату свету па самба, які праходзіў у Марока, Святлана Цімашэнка ў вагавой катэгорыі да 80 кг перамагла ў фінале балгарскую спартсменку.

*“Медаля такой высокай пробы ў Святланы яшчэ не было,* – распавяла нашай газеце трэнер-метадыст нацыянальнай каманды па самба **Алена МАСЕЙКАВА.** – *Да гэтага яна заваёўвала золата на чэмпіянаце Еўропы, была трохразовым прызёрам чэмпіянатаў свету. Вельмі вопытная самбістка, заўсёды змагаецца да апошняга”.*

Сама Святлана так распавядала пра тое, як прыйшла ў самба:

*“Сяброўкі пайшлі ў барацьбу, і я разам з імі. Хоць усе родныя крычалі, што гэты від спорту не для дзяўчынкі. Наогул, барацьба дапамагла мне ў жыцці, загартавала характар. Хоць нам не чужыя такія моманты, як манікюр ды наведванне салонаў. У нас самба ў большасці займаюцца мужчыны, таму трэба выглядаць прывабна не толькі па-за дыванам, але і на ім”.*

Пасля вяртання спартсменкі дадому мы задалі ёй некалькі пытанняў.

**– Якія ўражанні ад Марока?**

– Шчыра кажучы, не вельмі. Паўсюль на вуліцах бруд, смярдзіць… Пражыванне і харчаванне таксама былі не на вышэйшым узроўні, гатэль са сваімі “разынкамі”. Зрэшты, калі і з’яўляліся пэўныя праблемы, то мы стараліся іх проста не заўважаць. Хоць, безумоўна, ёсць што там і паглядзець – прыгожыя мячэці, акіян. Гэта проста захапляльна!

**– Да арганізацыі чэмпіянату пытанняў няма?**

– У межах нормы. Але зноў-такі само памяшканне, дзе праходзілі спаборніцтвы, магло быць і лепшае.

**– Зараз у свеце неспакойна, не страшна было ляцець у Марока?**

– Прызвычаіліся ўжо. Спартсмены ж пастаянна жывуць на чамаданах.

**– Наколькі папулярна самба ў Марока? Ці правядзенне сусветнага першынства краіне проста выдалі авансам?**

– Не думаю, што гэта нейкі аванс, бо мараканкі даюць вядучым самбісткам свету самы сапраўдны бой. Яшчэ некалькі гадоў – і нам прыйдзецца цяжка.

**– А балельшчыкі былі на трыбунах?**

– Хапала, хоць і не так шмат, як на спаборніцтвах у Еўропе. Але адзначу, што там балельшчыкі вельмі ўжо эмацыянальныя, а сваіх падтрымліваюць нават песнямі і танцамі.

**– Напярэдадні разлічвалі на золата чэмпіянату?**

– Надзея заўсёды павінна быць, бо без гэтага навошта жыць і за нешта змагацца? Іншая справа, што ў лютым гэтага года на адным з турніраў я атрымала сур’ёзную траўму – на пачатку паядынку, як кажуць, “выскачыла” калена. Парвала пярэднюю крыжападобную звязку, была аперацыя і працяглае аднаўленне. Пасля гэтага сусветнае першынство стала маім першым сур’ёзным стартам. Натуральна, спадзявацца на золата даводзілася толькі ў марах, але ж бачыце, як усё цудоўным чынам склалася.

**– Колькі праходзіла рэабілітацыя?**

– Недзе сем месяцаў, хаця ўрачы давалі на аднаўленне каля года. Але ж нам, спартсменам, трэба як мага хутчэй выходзіць на дыван, таму і рэабілітацыя праходзіць у паскораным тэмпе. Як кажуць, наперад – за Радзіму!

**– Пасля таго, як заваявалі залаты медаль, быў вольны час?**

– Так, як ужо казала, удалося паглядзець на мясцовыя славутасці, у акіяне паплавала.

**– Чэмпіёнку пазнавалі?**

– Пазнавалі. *(Смяецца.)* Мараканцы бегалі ззаду, хапалі за рукі і крычалі: “Наташа!” Для іх мы там, напэўна, усе Наташы.

**– Чэмпіёнка свету – што гэта для вас?**

– Самая высокая і дарагая перамога ў спартыўнай кар’еры. Вышэй не бывае, бо самба, на жаль, не ўключана ў алімпійскую праграму.

**Алесь СІВЫ.**

З НАГОДЫ

# Палёт «крумкачоў»



Не хачу паўтараць усё тое, што ўжо напісана пра футбольны клуб **“Крумкачы”**. Дадам ад сябе тое, што засталося амаль незаўважаным.

Калі два гады таму аматарская футбольная каманда з Мінска з сапраўднай беларускай назвай “Крумкачы” заявілася ў другую лігу футбольнага чэмпіянату Беларусі, я з гэтай нагоды напісаў ліст свайму прыяцелю і заўзятару мінскага “Дынама” Дзянісу Шунто, які быў галоўным натхняльнікам, стваральнікам і фундатарам каманды.

У ім пажадаў Дзянісу і яго “Крумкачам” паўтарыць шлях футбольнага клуба БАТЭ з Барысава, які цяпер ведае ўся футбольная Еўропа.

І распавёў яму гісторыю аб тым, як калісьці ў 1992 годзе, калі я яшчэ быў студэнтам юрыдычнага факультэта БДУ (ужо пасля распаду СССР і ўтварэння незалежнай Рэспублікі Беларусь), я прыехаў у Барысаў па справах да брата. Падчас шпацыру па горадзе, праходзячы ля стадыёна, мы вырашылі зазірнуць на яго.

Каб не рабіць кола да цэнтральнага ўваходу, зайшлі на стадыён праз дзірку ў плоце (агароджа была там-сям зламаная). І такіх дзірак было некалькі.

Сеўшы на падрапаныя і патрэсканыя драўляныя лавы на трыбуне, на якіх ледзь праступала фарба, а самі яны пачыналі гніць, мы з братам з сумам успаміналі тыя нядаўнія часіны, калі ў Барысаве была футбольная каманда з абрэвіятурай завода БАТЭ, якая вельмі няблага гуляла ў чэмпіянаце Беларусі.

Тады мы з братам марылі: цяпер, калі Беларусь ужо фармальна незалежная, у такіх гарадоў, як Барысаў, з’яўляецца шанц нароўні з Мінскам ствараць футбольныя клубы, якія будуць гуляць у чэмпіянаце Беларусі з самім мінскім “Дынама”. А калі ў гэтым накірунку трохі парупяцца барысаўскія ўлады, то БАТЭ не толькі ўваскрэсне, але і будзе ўдзельнічаць у еўракубках.

Крыху пасядзеўшы на аблезлых трыбунах таго барысаўскага стадыёна і паназіраўшы за нечымі гусямі, якія пасвіліся на футбольным полі, мы ўсталі і такім жа макарам – праз дзірку ў плоце – выйшлі са стадыёна.

Каб неяк змікшыраваць сумнае ўражанне пасля наведвання стадыёна, я па дарозе дазволіў сабе пажартаваць. Маўляў, на гэтых слупах гадоў праз дзесяць ці дваццаць будуць вісець афішы: “Футбол. Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў. БАТЭ(Барысаў, Беларусь) – “Ювентус”(Турын, Італія)”.

Праз дзесяць з гакам гадоў, калі БАТЭ ўжо быў чэмпіёнам Беларусі і пераўзышоў мінскае “Дынама”, да мяне дайшоў нейкі містычны сэнс таго жарту. Чаму тады ў ім я ўзгадаў менавіта “Ювентус”? Мусіць, таму, што менавіта ў “Ювентус” першым з беларусаў працерабіў дарогу Сяргей Алейнікаў – зорка беларускага, савецкага і сусветнага футбола.

І, калі не памыляюся, менавіта “Ювентус” і стаў той самай камандай з ліку грандаў еўрапейскага футбола, з якімі ў 2008 годзе і сустрэўся БАТЭ ў Лізе чэмпіёнаў. Недасяжная мроя стала рэальнасцю. І як пасля гэтага не верыць у здзяйсненне светлых мар?!

Ці ўдасца “Крумкачам” паўтарыць шлях БАТЭ?

Дзянісу Шунто і яго аднадумцам зрабіць гэта будзе нашмат цяжэй. Калі Анатолю Капскаму, які ўзяўся адраджаць каманду БАТЭ ў Барысаве, усяляк садзейнічалі і дапамагалі, у тым ліку завод і гарадскія ўлады, то Дзяніс Шунто пакуль што не атрымаў ніякай дапамогі. Апроч таго, што яго падтрымліваюць парадамі і пошукам маладых футбольных талентаў сябры і знаёмыя.

Дзяніс Шунто ўклаў у футбольны праект “Крумкачы” ўвесь свой бізнес. А гэта, паводле маіх самых сціплых падлікаў, больш за 100 тысяч долараў. На такое ў наш час могуць адважыцца хіба што вар’яты. Альбо тыя, хто любіць футбол і нашу Беларусь больш за ўсё астатняе ў сваім жыцці.

Таму цалкам пагаджаюся з Анатолем Байдачным, які сказаў, што такія людзі, як Дзяніс Шунто, – унікальныя. Яны – своеасаблівы “адзінкавы тавар у беларускім футболе”.

Ляцець – высока, глядзець – далёка!

Гэта дэвіз для фанаў ФК “Крумкачы”. Ужо сам па сабе ён абавязвае кіраўніцтва, ігракоў каманды, а таксама заўзятараў, журналістаў, спартыўных функцыянераў і ўсіх тых, хто неабыякава ставіцца да беларускага футбола, усяляк падтрымаць гэтую незвычайную каманду.

Перш за ўсё патрэбна фінансавая падтрымка. І, што з’яўляецца неабходнасцю для футбольнага клуба “Крумкачы”, гэта стварэнне адпаведнай для каманды вышэйшай лігі беларускага футбола матэрыяльна-тэхнічнай базы, якая зараз адсутнічае па той простай прычыне, што гэта фактычна першы ў беларускай гісторыі цалкам прыватны футбольны клуб.

А база павінна быць! І не горшай, чым у таго ж БАТЭ ці мінскага “Дынама”. У гэтай справе вельмі патрэбна зараз дапамога не толькі спонсараў, але і ўлад. Усім, хто ў Беларусі зараз мае дачыненне да спорту, трэба зразумець, што ў футбольнага клуба “Крумкачы” пасля яго сенсацыйнага выхаду ў эліту беларускага футбола, армія заўзятараў і прыхільнікаў аўтаматычна павялічваецца ў дзясяткі разоў.

І не скарыстаць такі патэнцыял народнай падтрымкі было б недаравальнай памылкай для кіраўніцтва беларускага футбола. А таксама і для кіраўніцтва ўсяго беларускага спорту.

Бо, што б ні казалі, але, на мой погляд, у Беларусі менавіта футбол, а не хакей быў, ёсць і заўжды будзе спортам №1.

**Павел ЗНАВЕЦ, заўзятар са стажам.**

**P.S.** *Карыстаючыся нагодай, звяртаюся публічна да віцэ-прэзідэнта НАК Беларусі* ***Максіма Рыжанкова,*** *з якім калісь вучыўся на юрфаку БДУ і які крыху пазней быў маім студэнтам падчас абароны дыпломнай працы і праходжання практыкі-стажыроўкі ў Міністэрстве замежных спраў: “Максім, дапамажы “Крумкачам”! У цябе ёсць для гэтага адпаведныя паўнамоцтвы і рычагі для адміністрацыйнага ўздзеяння на чыноўнікаў. “Крумкачы” гэта заслужылі”.*


Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 15092

Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 23.11.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25450 экз. Заказ №4428.